

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№12 (снежань), 2015

# Мяжа




**10 снежня берасцейскія праваабаронцы адзначылі чарговую гадавіну прыняцця Ўсеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека**

(старонка 11)

## ЗЬМЕСТ

## Беларусы пра магчымае падвышэнне пенсійнага ўзросту

На падвышэнне пенсійнага ўзросту ён пойдзе толькі параіўшыся з народам, – заявіў Лукашэнка на нарадзе падчас перамоваў па праграме пашырэння фінансавання з Міжнароднага валютнага фонда. Па словах Лукашэнкі, ён яшчэ перад выбарамі сказаў, што трэба падвышаць пенсійны ўзрост, назваўшы прычыны. Зараз ён даручыў Адміністрацыі прэзідэнта выпрацаваць алгарытм, як раіцца з народам.

Мы папрасілі мінакоў Глыбокага выказаць сваё меркаванне наконт плануемага падвышэння пенсійнага ўзросту:

*– Нас ніхто пытацца не будзе, толькі лапшу нам на вушы вешаюць. Падвысіць і ўсё.*

*– Я – супраць. Канешне, гледзячы, дзе хто працуе. Таму што ёсць цяжкая праца, і да пенсіі можна проста не дажыць.*

*– Калі хто можа – няхай працуе.*

*– Ад нас нічога не залежыць.*

*– Я – супраць. Не дажыву!*

*– Я лічу, што кіраўнік дзяржавы мусіць прыслухоўвацца да меркавання народа. Бо можа пачацца бунт і вайна, як ва Украіне, можа нават і горш, бо і так невядома, што будзе.*

Да прыкладу, у суседняй Польшчы тры гады таму быў падвышаны пенсійны ўзрост: жанчынам – да 65, мужчынам – да 67 гадоў. Але правая партыя “Права і Справядлівасць”, якая зараз пры ўладзе, паабяцала адмяніць гэтае рашэннне і нанава панізіць пенсійны век. Яна ўжо шмат што робіць у гэтым кірунку. Будзе таксама ўлічана і тое, што калі чалавек захоча працаваць даўжэй, ніхто яго сілком адпраўляць на пенсію не будзе.

http://www.racyja.com/ekanomika/belarusy-pra-magchymae-padvyshenne-pen/

## Сувязь з продкамі

У Берасце ў выставачнай зале адкрыта экспазіцыя мастака-ювеліра Мікалая Кузьміча, прымеркаваная да 65-годдзя майстра. Юбілейная выстава “Кропка”сабрала каля 70 работ берасцейца.

Мікалай Кузьміч - заслужаны дзеяч мастацтва Рэспублікі




Беларусь, член Беларускага саюза мастакоў, удзельнік шматлікіх выстаў, лаўрэат міжнародных прэмій і конкурсаў, уладальнік ганаровых грамат, медалёў і ордэнаў. Працуе ў розных тэхніках ювелірнага мастацтва.

Арыгінальная манера выканання мастака спалучае вопыт тысячагоддзяў з талентам і майстэрствам. Мікалай Кузьміч стварае і сучасныя ювелірныя ўпрыгожванні, і культавыя творы-іконы, нацельныя абразкі і інш.

Майстру за 20 гадоў працы атрымалася узнавіць некалі страчанаю древневізантыйскую тэхніку працы з эмаллю і каштоўнымі металамі. Мікалай Кузьміч ўваходзіць у пяцёрку лепшых майстроў свету, якія працуюць у тэхніцы перагародкавай эмалі. Але шырока вядомым ва ўсім свеце ён стаў пасля таго, як аднавіў нацыянальную рэліквію Беларусі XII стагоддзя - крыж святой Ефрасінні Полацкай. Культавы твор, які не мае роўных па сваёй значнасці, прыгажосці і па гэты дзень ва Ўсходняй Еўропе.

В 2015 году мастак заслужана быў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны.

На юбілейнай выставе можна азнаёміцца з серыямі работ мастака "Курган", "Полацк", "Грунвальдская бітва", Спадчына "," Чарадзей "," Вежы ". Непаўторныя творы Мікалая Кузьміча звязваюць мінулае з сучаснасццю. У спалучэннях медзі і каляровай эмалі праступаюць вобразы анёлаў, святых , храмаў, так званая “жывапіс ў

метале”.

Ёсць магчымасць да 12 снежня- як дарослым, так і школьнікам наведаць выставу мастака. Імя Міколы Кузьміча цяпер ужо і ў падручніках па гісторыі, дзе распавядаецца пра крыж - нацыянальную каштоўнасьць беларускай нацыі...

## 5 снежня – Международны дзень валанцёраў!

Берасцейскія праваабаронцы, удзельнікі Беларускай Праваабарончай Гуманітарнай Місіі ва Ўкраіне, віншуют усіх валанцёрав планеты са святам,




асабліва валанцераў “Станцыі Харькаў", якія аказываюць дапамогу **перасяленцамі з зоны АТА Еву Гукалаву, Юлю Піменаву (Пчёлку)**, Алісу Веневцеву, Надзею Рында, Анжаліку Ібр і шмат іншых, з якімі пазнаёміліся ў рамках праваабарончай гуманітарнай Місіі ў Украіне. На працягу двух месяцаў беларускія валанцёры працавалі **ў арганізацыі "Станцыя Харкаў," дапамагалі на гарачай лініі, праводзілі маніторынгавыя апытанні, грузілі, разгружалі машыны, дапамагалі з пераездам, кансультавалі, пісалі артыкулы, праводзілі інтэрв'ю.**

Акрамя таго, ў рамках Місіі ў чэрвені і верасні брэсцкія праваабаронцы з тыднёвымі візітамі наведалі Львоў, дзе таксама ў якасці валанцёраў дапамагалі мясцовым недзяржаўным арганізацыям і ўдзельнічалі ў праваабарончых мерапрыемствах.

Берасцейскія праваабаронцы асабліва віншуюць сваіх калег з Цэнтру “СІМ”, арганізацыі “SOS Крым” і разнастайных валанцёрскіх ініцыятываў з якімі мелі гонар пазнаёміцца.

## Шабнам Худойдодова ў Берасцейская СІЗа змагаецца за свае правы

Як мы ўжо паведамлялі тэрмін утрымання пад вартай актывісткі з Таджыкістану Шабнам Худойдодовай у берасцейскім СІЗА быў працягнуты да 13 снежня.




Нагадваем, што Шабнам Хадайдодава з’яўляецца актывісткай апазіцыйнай таджыкскай арганізацыі “Група 24”, якая накіроўвалася ў Польшчу, але была затрымана памежнікамі, бо знаходзілася ў міждзяржаўным вышуку за экстрэмісцкую дзейнасць на тэрыторыі сваёй краіны. http://www.brestspring.com/index.php?id=9789

У сваіх лістах да праваабаронцаў Шабнам скардзіцца на складаныя ўмовы ўтрымання ў СІЗА. Разам з ёй у камеры сядзяць жанчыны, якія смаляць і якія не смаляць, сярод іх есць, як піша Шабнам, “неадэкватныя”, якія ня толькі смаляць, але ж лаюцца матам, крадуць, проста перашкаджаюць спаць. Таксама ў яе камеры знаходзяцца яшчэ 4 жанчыны, якія не смаляць, але мусяць увесь час дыхаць нікацінам. З-за тых хто смаліць вакно ў камеры не зачыняюць, таму ў камеры холадна. Шпацыраваць выводзяць усяго на паўгадзіны. Ад нікаціну ў Шабнам баліць сэрца, галава, павысіўся цукар у крыві (рабілі аналіз крыві). Актывістка з Таджыкістану неаднаразова звярталася да адміністрацыі СІЗА перавесці яе ў іншую камеру, стварыць элементарныя ўмовы для жанчын, якія не смаляць. На што ёй адказалі, што не будуць для яе ствараць асаблівыя ўмовы. Але ж гэта элементарныя ўмовы ўтрымання пад вартай, сцьвярджае

Шабнам Худайдодова.

Магчыма пасля 13 сьнежня тэрмін яе знаходжання за кратамі падоўжаць яшчэ на дзесяць месяцаў.

Неабыякавыя берасьцейцы могут падтрымать Шабнам лістамі і паштоўкамі або перадачамі.

Нагадваем прыёмы перадач у СІЗА Берасця ад 8.30 да 13.00, панядзелак – выходны. Шабнам можна перадаваць сыравэнджаныя каўбасы, печыва, хлеб, яблыкі, моркву, бананы, чай чорны і зялёны, снікерсы, кашы хуткага прыгатавання, шампунь, пральны парашок. Шабнам любіць малявац, а таму вітаецца альбом для малявання.

Трэба ўлічваць, **што забаронена передаваць спіртаўтрымліваючыя напоі, хуткапсуючыяся прадукты харчавання, кулінарныя поўвырабы, цукеркі ва ўпакоўцы (то бок можна перадаваць цукеркі без фанцікаў і пудэлак). Нельга перадаваць прадукты і напоі ў шкляных слоіках ці металічных пушках. На месяц можна перадаць ня больш за 30 кг перадач.**

**Адрас для ліставання:**

**Шабнам Худайдодавай,**

**вул. Карла Маркса 86,**

**Брэст, 224000.**

## “Шпора” для міліцыянта

З даўніх часоў праваабаронцы і грамадзкія актывісты назіраюць пэўную тэндэнцыю, як нейкая акцыя на ўдзельнікаў складаецца процьма рапартоў і пратаколаў, і усе яны выглядаюць вельмі падобна. Дасведчаныя, маючыя за плячыма не адно затрыманне і пакаранне актывісты прыйшлі да высновы, што рапарты і пратаколы міліцыянты пішуць калі не “пад капірку” дык пад дыктоўку начальніка.

Але шыла ў мяху не схаваеш!

І вось днямі пільныя грамадзяне ў горадзе над Мухаўцам знайшлі цікавы дакумент, які можна ідэнтыфікаваць як “шпора” міліцыянта. Гэта быў клапатліва заламінаваны, пэўна нейкім “байцом” АМАПу, ўзор складання міліцэйскіх рапартоў (глядзі здымак). Гэты “узор” ахоплівау 4 заганныя з’явы беларускага грамадства:

“распіццё гарэлкі”,



Начальнику Московского РОВД
полковнику милиции
Старикевичу С.С.

РАПОРТ

Докладываю, что 29 июля 2012 г.
В 15 часов 00 мин, я
НВН в/ч 5526 ефр. Лапшин А.О.
должность, звание
на ул. Карла Маркса 79
конкретное место
задержал и доставил в РОВД
гр-на, назвавшегося
Иванова Ивана Ивановича
который во дворе дома по улице Карла Маркса 79 распивал водку "Аквадив", где распитие запрещено
краткое описание совершенного
административного нарушения
или преступления
Рапорт составил и задержанного
Иванова И.И.
Передал в 15 часов 20 минут
НВН в/ч 5526 ефр. Лапшин А.О.
Должность, Ф.И.О.
Подпись

Начальнику Московского РОВД
полковнику милиции
Старикевичу С.С.

РАПОРТ

Докладываю, что 29 июля 2012г.
В 15 часов 00 мин, я
НВН в/ч 5526 ефр. Лапшин А.О.
должность, звание
на ул. Карла Маркса 32
конкретное место
задержал и доставил в РОВД
гр-на, назвавшегося
Иванова Ивана Ивановича
который во дворе дома по улице Карла Маркса 32 справлял естественные надобности, чем оскорбил человеческое достоинство и общественную нравственность
краткое описание совершенного
административного нарушения
или преступления
Рапорт составил и задержанного
Иванова И.И.
Передал в 15 часов 20 минут
НВН в/ч 5526 ефр. Лапшин А.О.
Должность, Ф.И.О.
Подпись

Начальнику Московского РОВД
полковнику милиции
Старикевичу С.С.

РАПОРТ

Докладываю, что 29 июля 2012 г.
В 15 часов 00 мин, я
НВН в/ч 5526 ефр. Лапшин А.О.
должность, звание
на ул. Карла Маркса 50
конкретное место
задержал и доставил в РОВД
гр-на, назвавшегося
Иванова Ивана Ивановича
который во дворе дома по улице Карла Маркса 50, находясь в общественном месте в пьяном виде шатался из стороны в сторону, имел неопрятный внешний вид, не ориентировался на местности, чем оскорблял человеческое достоинство и общественную нравственность
краткое описание совершенного
административного нарушения
или преступления
Рапорт составил и задержанного
Иванова И.И.
Передал в 15 часов 20 минут
НВН в/ч 5526 ефр. Лапшин А.О.
Должность, Ф.И.О.
Подпись

Начальнику Московского РОВД
полковнику милиции
Старикевичу
С.С.

РАПОРТ

Докладываю, что 29 июля 2012 г.
В 15 часов 00 мин, я
НВН в/ч 5526 ефр. Лапшин А.О.
должность, звание
на ул. Карала Маркса 79
конкретное место
задержал и доставил в РОВД
гр-на, назвавшегося
Иванова Ивана Ивановича
который по ул. К. Маркса 79
краткое описание совершенного
переходил проезжую часть в неустановленном месте, чем нарушил ПДД
административного нарушения
или преступления
Рапорт составил и задержанного
Иванова И.И.
Передал в 15 часов 20 минут
НВН в/ч 5526 ефр. Лапшин А.О.
Должность, Ф.И.О.
Подпись



"апраўленне фізіялагічных патрэб",

"п'ян ы стан і непрыстойны выгляд з неўстойлівай хадой і кепскай арыентацыяй у прасторы" і

"пераход дарогі ў ня вызначаным месцы".

Пільныя грамадзяне звярнуліcь па каментар да праваабаронцаў. Уладзімір Вялічкін:

"Міліцыя – гэта праваахоўчы орган. Тут мусяць працаваць і працуюць шмат дасведчаных юрыстаў. Алеж на ўсе вуліцы і да кожнага грамадзяніна іх не прыставіш. Вось і патрулююць вуліцы "байцы" АМАПу, ППС, курсанты, сярод якіх шмат недасведчанай моладзі. Каб ахапіць кожнага супрацоўніка міліцыі навучаннем у галіне права, павысіць іх прафесійны ўзровень, кіраўніцтва МУС і іх навучальных установаў распрацоўваюць падобныя "ўзоры", як дапаможны матэрыял сваім супрацоўнікам.

Здавалася б правільна робіцца, але ж не забывайце: "Благімі намерамі выбрукавана дарога ў Пекла!" Мы не бачылі іншых "узораў", тых, што тычацца распаўсюду друкаваных матэрыялаў, правядзення масавых мерапрыемстваў, графіці і г.д. Мо таму ў апошнія гады актывісты апазіцыі адпаведна складваемых на ніх пратаколаў калі

публічна не “піюць гарэлку”, дык “апраўляюць фізіялагічныя патрэбы”, чым абражаюць грамадства. Такім чынам дыскрэдытуюцца прадстаўнікі апазіцыі ў вачах беларускай і міжнароднай супольнасці.

Уявіце сабе апраўдванні вядомага апазыцыянера ў падобнай сітуацыі: “Я не апраўляў фізіялагічныя патрэбы на праезджай часцы, я выказваў пратэст супраць дзеючага рэжыму!”

У дадатак, у судзе выяўляецца, што прадстаўнікамі грамадства з’яўляюцца складальнікі рапартоў, а суд кіруецца “прэзумцыяй даверу супрацоўніку міліцыі”...

Што рабіць у такой сітуацыі? Звярнуцца ў сродкі масавай інфармацыі? Ёсць над чым падумаць...”

## РЭП арганізаваў у Берасці прабег супраць кантрактаў

Сябры Беларускага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Берасцейшчыны адзначылі Міжнародны дзень правоў чалавека прабегам па пешаходнай вуліцы Савецкай у Берасці. Бегуны былі апрануты ў белыя майкі з надпісам “За Беларусь без кантрактаў!” і “Рабоў да раю не пускаюць”.



„Гэтая нашая акцыя напамінае берасцейцам пра Міжнародны дзень правоў чалавека, значны і вялікі дзень для кожнага працаўніка,” – кажа прававы інспектар прасаюза Уладзімір Малей:

– Прафсаюз РЭП стаў ініцыятарам правядзення акцыі па адмене кантрактнай сістэмы.

Рыгор Грык:

– Я прыехаў падтрымаць гэты прабег. Мы хочам паказаць нашым людзям, якія жывуць у Берасці, тое, што адмена кантрактнай сістэмы неўзабаве адбудзецца, таму што немагчыма увесь час быць рабамі.

Валерый Фамінскі:

– Добры дзень такі, каб гэтыя правы сапраўды сталі рэальнымі, а не папяровымі.

Аляксандр Мех, Кобрын:

– За сваю волю заўсёды трэба змагацца, за сваю волю трэба і ахвяраваць, і ўвесь час бараніць яе.

Акцыя выклікала зацікаўленасць у людзей. Завязваліся размовы. Удзельнікі акцыі лічаць, што насуперак жаданння ўладаў, усё-такі інфармацыя пра Міжнародны дзень правоў чалавека пайшла ў народ.

http://www.racyja.com/hramadstva/rep-arganizavau-prabeg-u-berastsi-supr/

## Барацьбу з дармаедзтвам падмацуюць заканадаўча

Сёньня Палата Прадстаўнікоў прыняла ў першым чытаньні папраўкі да Закону «Аб занятасьці насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусь».

«Зьмены ў гэтым Законе ўсталёўваюць шэраг абавязкаў для грамадзян Беларусі, якія зь нейкіх прычын не працуюць, і накіраваныя на стымуляваньне больш актыўнага пошуку імі самімі працоўных месцаў», — заявіў, выступаючы перад дэпутатамі, першы намесьнік міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі Андрэй Лабовіч.

Прынамсі прадугледжваецца, што максымальны пэрыяд, на якім грамадзянін можа знаходзіцца на ўліку як беспрацоўны, будзе скарочаны з 36 да 18 месяцаў. Прадугледжаныя яшчэ такія меры супраць дармаедаў, як прыпыненьне ім выплаты грашовай дапамогі, зьмяншэньне памеру грашовай дапамогі на 50%, а не на 25, як гэта адбываецца зараз, скарочаны тэрмін для беспрацоўнага, які павінен абавязкова зьявіцца ў цэнтар занятасьці. Калі ён не зьявіцца туды цягам двух дзён, то яму прыпыняецца выплата дапамогі.

Падчас абмеркаваньня пытаньняў па беспрацоўі было зафіксавана, што за апошні год у Беларусі ўдвая павялічылася колькасьць беспрацоўных, як сьведчыць афіцыйная статыстыка, і, з другога боку, памяншаецца колькасьць вакансіяў ад наймальнікаў.




Што тычыцца наймальнікаў, то і для іх прадугледжана адказнасьць: калі, згодна з дзейным заканадаўствам, яны павінны былі інфармаваць пра вакансіі службы занятасьці цягам 2 тыдняў, то цяпер гэты тэрмін скарочаны да 5 дзён.

http://www.svaboda.org/content/baracbu-z-darmajedztvam-padmacujuc-zakanadauca/27418720.html

## 10 снежня берасцейскія праваабаронцы адзначылі чарговую гадавіну прыняцця Ўсеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека

Група праваабаронцаў і грамадскіх актывістаў берасцейшчыны сабралася ў вечары за круглым сталом, каб узняць пытанне выканання Правоў чалавека ў Беларусі і абмяркаваць сітуацыю са станам правоў чалавека на Берасцейшчыне.

Прадстаўнікі з Кобрына, Баранавіч і Берасця расказалі аб праблемах сваіх рэгёнаў. Былі закранутыя сама розныя пытанні ад дзіцячых пляцовак, павышэння пенсійнага ўзросту, малых пенсій, вялікіх і бязглуздых падаткаў, адсутнасці працы, штрафаў за ўдзел у грамадскіх акцыях, да слабога і безініцыятыўнага кіраўніцтва на предпрыемствах.

Таксама разглядалі пытанні культуры, гісторыі і адсутнасці адукацыі на беларускай мове. Асобна ўзгадалі аб чыніках, якія абудзілі грамадзянскую пазіцыю ўдзельнікаў мерапрыемства.

У выніку працяглай дыскусіі прысутныя прыйшлі да высновы: што ня трэба дазваляць заганяць сябе ў рамкі, якія стварае дзеючая улада і вызначылі шляхі супрацоўніцтва на будучыню.

## Бярозаўскія ўлады адмовілі ў правядзенні пікета па ілжывай падставе

Бярозаўскія ўлады не дазволілі праводзіць пікет у Міжнародны дзень правоў чалавека пяці праваабаронцам і грамадскім актывістам па прычыне занятасці Цэнтральнага стадыёну. Маўляў, там з 12 да 13 адбудуцца спартовыя мерапрыемствы з наяўнасцю гледачоў. “Зыходзячы з гэтага, распараджэннем райвыканкама ад 2 снежня 2015 г.№242 на падставе арт.6 і 9 Закона РБ ад 30 снежня 1997 г. “Аб масавых мерапрыемствах у РБ” з прычыны таго, што забаронена правядзенне аднчасова некалькіх масавых мерапрыемстваў у адным месцы, у правядзенні пікету 10 снежня 2015 г. на Цэнтральным стадыёне вам адмоўлена”.

Як аказалася, стадыён у гэты час быў абсалютна свабодны. Дзяжурная па ўваходу на стадыён паведаміла, што 10 снежня не запланавана ніякіх спартовых спаборніцтваў.

Заяўнікі пікету намераны аспрэчваць дзеянні ўладаў па адмове масавага мерапрыемства ў судзе, у тым ліку дадаўшы ў скаргу яшчэ і пункт пра парушэнне арт 6 закону “Аб масавых мерапрыемствах у РБ”, бо адказ прыйшоў за 2 дні да запланаванага мерапрыемства, а не 5, як гэтага патрабуе закон.

http://spring96.org/be/news/81591

## “Абыякавы да мінулага не мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай”

14 снежня ў Берасце на курсах “Мова нанова” адбылася літаратурная вечарына з нагоды 85-годдзя з дня нараджэння беларускага пісьменніка, паэта і драматурга Уладзіміра Караткевіча. Берасцейцы занурыліся ў свет паэзіі знакамітага Сына Беларусі. Удзельнікі сустрэчы з задавальненнем чыталі ўлюбленыя вершы .

Уладзімір Караткевіч з’яўляецца адным з самых яркіх і самабытных прадстаўнікоў беларускай літаратуры XX стагоддзя,




лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа. Яго творамі зачытваюцца людзі розных узростаў - ад школьніка да прафесара. Ён стаў першым, хто так займальна пісаў пра нацыянальную гісторыю. Творы пісьменніка перакладзены на многія мовы свету.

Адкрыццём для многіх стаў Караткевіч - мастак, які малаваў партрэты, малюнкі на гістарычныя тэмы, ілюстрацыі да ўласных твораў, сяброўскія шаржы, выкананыя алоўкам, чарнілам, тушшу.

Прысутныя пазнаёміліся са стрыечным братам пісьменніка спадаром Георгіям Грынкевічам, які падзяліўся сваімі ўспамінамі пра славутага сваяка, распавёў пра малазнаёмыя факты жыцця класіка беларускай літаратуры. Сп. Георгі Грынкевіч таксама зьяўляецца сваяком Ларысы Геніюш. Ён узгадаў, што менавіта яна параіла яму стаць лекарам.

Напрыканцы вечарыны, прысвечынай юбілею велікага беларускага аўтара, успомнілі крылатыя словы Уладзіміра Караткевіча:

*“Кожны чалавек носіць сваё неба з сабой”*

*“Вечна тваім застанецца толькі тое, што ты аддаў”*

*“Абыякавы да мінулага не мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай, і таму ёсць першы кандыдат на маральную, а затым і фізічную смерць. Усё адно хто гэта — чалавек ці народ”*

*“Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто — і тады пераможаш”*

*“Дзеці – усмешка Божая”.*

## Уладзімір Вялічкін: Беларусь выштурхнутая ў Азію



Праваабаронца з Берасця Уладзімір Вялічкін, вядомы па сваіх спробах правядзення пікетаў у абласным цэнтры, не бачыць сэнсу ў правядзенні акцый за ўвядзенне паміж Польшчай і Беларуссю малога памежнага руху. Як лічыць праваабаронца, насельніцтва рэгіёна гэтая тэма блізкая, але ўлады наўрад ці дазволяць узняць гэтую тэму на вуліцах абласнога цэнтра.Уладзімір Вялічкін “Трэба спачатку знізіць кошт шэнгенскіх візаў для беларусаў”, – кажа Уладзімір Вялічкін:

– Канешне, для жыхароў рэгіёна гэта актуальная праблема, як і кошт візаў: не ведаю, за што беларусы плацяць 60 еўра, калі расейцы – 35. Гэта яшчэ раз падмацоўвае “жалезную заслону”, якая паўстала пасля ўзнікнення Еўразвязу. Такіх праблемаў я не бачу ані з Украінай, ані з той жа Расеяй. Менавіта Беларусь чамусьці замінае. Недзе на вельмі высокім узроўні таксама прынята прынцыповае рашэнне – Беларусь проста выштурхнутая ў Азію.

Сёлета па абодвух баках беларуска-польскага памежжа праходзіць інфармацыйная кампанія за ўвядзенне малога памежнага руху. На вышэйшым узроўні працягваюцца перамовы паміж Бруселем і Менскам пра спрашчэнне візавага рэжыму.

http://www.racyja.com/palityka/uladzimir-vyalichkin-belarus-vyshturkh/

## Правы беларусаў у Польшчы




Прадстаўнікі берасцейскай філіі праваабарончага цэнтру “Вясна” 18 снежня наведалі беларускую радыёстанцыю “Радыё рацыя”, што знаходзіцца ў Беластоку.

Па дарозе праваабаронцы пабачылі, што на Падляшшы ў тых мясцовасцях, дзе кампактна пражываюць беларусы, назвы населеных пунктаў на ўездзе і выяздзе напісаны на дзьвюх мовах: па-польску і па-беларуску. Як высветлілася дзвухмоўныя шыльды прадугледжаны законам аб нацыянальных меньшасцях, якія жывуць у Рэспубліцы Польшча.

Відавочна, што пакуль такога ў Беларусі няма...

Аднак, польскія ўлады не наважыліся далей пашыраць правы нацыянальных меньшасцяў. Так, новаабраны Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда 28 кастрычніка 2015 года адмовіўся падпісаць чарговы законапраект датычна правоў нацменшасцяў. Паводле новага законапраекту прадугледжвалася ўвядзенне моў нацыянальных меньшасцяў у справаводстве і адміністрацыйных зносінах у тых рэгіёнах, дзе пражываюць нацменьшасці. Гэта можа сведчыць пра тое, што палітычныя эліты Польшчы баяцца пашырэння правоў нацыянальных меньшасцяў і надалей бачаць польскае грамадства як маналітную структуру.

## У Скоках пад Брэстам узгадалі падзеі 1915 года

12 снежня 2015 года на тэрыторыі паркавай зоны былой сядзібы Нямцэвічаў у Скоках, што на Берасцейшчыне, прайшла ваенна-гістарычная рэканструкцыя «Скокі-2015», прысвечаная 98-гадавіне заключэння Брэсцкага перамір'я.

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел каля 100 рэканструктараў з




Беларусі, Расеі і Украіны, якія займаюцца тэмай Першай сусветнай вайны.

Сцэнар ваенна-гістарычнай рэканструкцыі ўзнавіў падзеі 1915 года, калі ішоў працэс стабілізацыі лініі фронту. У ходзе рэканструкцыі баявых дзеяньнняў была выкарыстана конная кавалерыя, халастая зброя часоў Першай сусветнай вайны, шырока ўжываліся піратэхнічныя спецэфекты на фоне адноўленых абарончых пазіцый.

З нагоды 98-ай гадавіны падпісання Брэсцкага перамір'я 15 сьнежня 1917 года ў сядзібе Нямцэвічаў была адкрыта адмысловая памятная дошка.

На мерапрыемства прыйшлі паглядзець шмат берасцейцаў, прысутнічалі прадстаўнікі тэлерадыёкампаній, журналісты і школьнікі.

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»